**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.21, 16.26, 9.05;
Віцебск — 7.15, 16.11, 8.56;
Магілёў — 7.10, 16.15, 9.05;
Гомель — 7.04, 16.16, 9.12;
Гродна — 7.37, 16.40, 9.03;
Брэст — 7.31, 16.48, 9.17.

**МЕСЯЦ:**

Першая квадра 2 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**

Маркіяна, Анастаса.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

7 ЛІСТАПАДА 1992 г.
субота, № 226 (22004)

## РОЗГАЛАС

### БЫВАЙ, РУБЕЛЬ?

**Расійскі безнаяўны рубель з дзесятага лістапада стане на Беларусі фактычна замежнай валютай.**

**Услед за рашэннем аб пераходзе з дзесятага лістапада на разлікі за ўсе харчовыя тавары толькі беларускімі рублямі старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч разаслаў тэлеграму ў камерцыйныя банкі аб парадку разліку безнаяўнымі грашыма.**

У ЁЙ РЭКАМЕНДУЕЦЦА адкрыць разам з карэспандэнцкімі рахункамі безнаяўных беларускіх рублёў паралельна субкарэспандэнцкія рахункі безнаяўных расійскіх рублёў. З гэтых субрахункаў безнаяўныя расійскія рублі можна патраціць толькі на плацяжы ў Расіі альбо на продаж (абмен) на безнаяўныя беларускія на свабодным грашовым рынку па рынкаваму курсу. Пры гэтым на тэрыторыі рэспублікі разлікі ў безнаяўных расійскіх рублях не дапускаюцца. Тыя, каму расійскіх рублёў, вобразна кажучы, няма куды падзець, цяпер вымушаны будуць абменьваць іх на беларускія па курсу, які яшчэ складзецца, альбо прадаць іх у Нацыянальны банк Беларусі. Відаць, не будзе перабольшаннем заявіць, што фактычна гэтым рашэннем расійскі безнаяўны рубель становіцца на Беларусі замежнай валютай.

Ітак, зроблены наступны крок дзеля дасягнення фінансавай незалежнасці. Крок, аднак, настолькі сур'ёзны і нечаканы, што нават дэпутаты аб ім нічога не ведалі. Ва ўсякім разе, старшыня парламенцкай камісіі па эканамічнай рэформе і дасягненню эканамічнай самастойнасці рэспублікі Леанід Козік заявіў мне, што каменціраваць данае рашэнне ніяк не можа, бо пра ўсё даведаўся са «Звязды» і ўвогуле, мякка кажучы, вельмі здзіўлены такім падыходам з боку Саўміна і Нацыянальнага банка.

Тым не менш, факт ёсць факт. І зараз, безумоўна, усіх цікавіць, што з яго вынікае. Сказаўшы «а» — будзе свабодны рыначны курс паміж беларускімі і расійскімі рублямі — Нацыянальны банк пакуль не ў стане вымавіць «б» — якім ён будзе. Таму паслухаем незалежных спецыялістаў. Вось што думае начальнік планава-эканамічнага ўпраўлення «Прыорбанка» Людміла Логінава.

— Зразумела, што прадпрыемствы, якія маюць вялікія плацяжы ў Расіі, будуць спрыяць росту курса беларускага рубля. Яны павінны будуць «скідваць» расійскія рублі ў абмен па беларускія, каб атаварыцца ў Беларусі. А паколькі многія тавары ў нас больш танныя, можна чакаць «пад'ёму» беларускай валюты.

— Але ў той час, калі расійскі рубель забяспечаны газам, нафтай, наш не мае такой «энергетычнай падтрымкі». Ці не адаб'ецца гэта на яго курсе?

— Так, мы заўсёды будзем павінны грошы Расіі, бо заўжды будзем плаціць ёй за сыравіну. Але ўсё будзе залежаць ад сітуацыі. Напрыклад, зараз Расія павінна нам вялікія сумы, і таму, напэўна, спачатку нашы рублі будуць вышэй за расійскія.

Дададзім, што ўжо ўчора з'явіліся звесткі аб тым, нібыта ў некаторых банках не хапае «зайчыкаў». Аднак у Нацыянальным банку ў чарговы раз запэўнілі, што іх надрукавана колькі неабходна (аднак дакладную лічбу назваць адмовіліся) і будзе друкавацца згодна з бягучай інфляцыяй. Што, дарэчы, таксама прымушае задумацца аб лёсе нашых грошай і ўспомніць прыклад Латвіі, якая, увёўшы ва ўжытак пэўную суму «рублікасаў», больш яе не павялічвала, чым і дабілася значнай фінансавай стабілізацыі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## КАМАНДЗІРОЎКА НА ВАЙНУ

# Усё роўна хочацца верыць, што і цяпер Панядзелак пачынаецца з базару

**На яго твары нават праз паўгода пасля смерці захавалася здзіўленне. Удар быў нанесены ззаду, у спіну. А тое, чаго не бачыш, заўсёды з'яўляецца патэнцыяльнай нечаканасцю. «Падснежнік» — труп пад снегам — знайшлі вясной на тэрыторы дысцыплінарнага батальёна, які быў размешчаны непадалёк ад часці, дзе я служыў. Падзеі адбываліся на Поўначы, у Архангельскай вобласці, таму «падснежнік» так добра і захаваўся. Ён аказаўся салдатам армянскай нацыянальнасці гэтага ж дысбата. Армяніна лічылі без вестак прапаўшым. Разбіраліся нядоўга, растаўшага «падснежніка» «спісалі» на нейкага «дэмбеля»-азербайджанца,—і канцы ў ваду. Старшына маёй роты Цемураў, таджык, сказаў, што ён бы перsuccessfully...**

У абсалютнай большасці здарэнняў, смерцяў і баёў у цяперашнім Таджыкістане нельга знайсці канцоў. Калі пры «разборы палётаў» армяне могуць ківаць на азербайджанцаў, а азербайджанцы на армян, грузіны — на абхазаў, а абхазы — на грузін і г. д., то тут не могуць разабрацца паміж сабой нават лідэры асобных фарміраванняў. На гісарцаў, якія захоплівалі будынак Вярхоўнага Савета рэспублікі, пры іх вяртанні дадому напала групоўка невядомага колеру. У выніку расійскія войскі, якія ахоўвалі абяззброеных гісарцаў, вымушаны былі адкрыць агонь — загінулі каля ста сямідзесяці нападаўшых. Калі гэты бой неяк можна растлумачыць разыходжаннямі поглядаў на будучыню рэспублікі, дык як можна растлумачыць зверскае забойства дзвюх дзяўчынак, якіх хавалі ў час нашага знаходжання ў Таджыкістане?

Школьны дзённік адной з іх неяк вельмі безабаронна ляжаў паміж дзвюх невялікіх трунаў і кветак. Я паспеў заўважыць на адной старонцы «пяцёрку» па роднай гісторыі. Якую адзнаку ставіць цяперашняй гісторыі Таджыкістана? І хто каму яе павінен ставіць?

Забіваюць артыстаў. Вядомы таджыкскі народны спявак Караматул Курбонаў, маладыя вы канаўцы Наўруз Саркызаў, Фарыд Нізаметдзінаў загінулі па невядомых прычынах.

Напэўна, гэта самае страшнае — невядомасць і няўпэўненасць у сваім заўтра. Яго не бачаць у гэтай краіне паўмільёна рускіх, якіх называюць тут «андрэйчыкамі». Няўпэўнена пачынаюць адчуваць сябе больш за мільён узбекаў, якіх апазіцыя адносіць да «юрчыкаў» (прыхільнікаў дзейнасці Юрыя Андропава). Хочацца нагадаць, што ў суседнім Узбекістане пражывае больш за 15 мільёнаў узбекаў і што яны не збіраюцца спакойна назіраць за парушэннем правоў сваіх братоў у Таджыкістане «воўчыкамі» альбо вахабістамі — мусульманскімі фундаменталістамі. Сярэдняя Азія ў агні ваенных канфліктаў — згадзіцеся, гучыць сумна. Пад ручным кулямётам, устаноўленым на прывакзальнай плошчы, дагэтуль вісіць надпіс «Дружба народаў — наш бясцэнны здабытак». Усё, скончылася дружба народаў? А можа, народы проста развучыліся дружыць? Нам выпадкова ўдалося пагаварыць

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ПАДОБНЫХ ТЫРАЖОЎ НЕ БАЧЫЛІ МЫ ЗРОДУ

**Згодна з атрыманымі рэдакцыяй данымі, падпіска на «Звязду» па стану на 1 лістапада 1992 года без горада Мінска склала 164.986 экземпляраў, што больш як 250 працэнтаў у параўнанні з 1 студзеня бягучага года. А вось як выглядаюць даныя па асобных рэгіёнах Беларусі:**

**Брэсцкая вобласць — 16.513 экземпляраў;**
**Віцебская — 24.973;**
**Гомельская — 31.044;**
**Гродзенская — 27.671;**
**Мінская — 48.137;**
**Магілёўская — 16.658;**
**горад Мінск — даныя не апрацаваны.**

**На жаль, на момант атрымання гэтай інфармацыі (6 лістапада) не былі падрыхтаваны і вынікі падпісной кампаніі па стану на 1 лістапада па іншых рэспубліканскіх газетах, таму мы іх і не прыводзім.**

### У ВАС ПРАЯЗНЫ? ВЫ ЗРАБІЛІ МУДРА

**Самы час жыхарам беларускай сталіцы ўспомніць аб карысці прагулак на свежым паветры. Згодна з рашэннем Мінгарвыканкома, з 15 лістапада адна паездка на ўсіх відах гарадскога транспарту будзе каштаваць тры рублі. Як у ваду глядзелі тыя, хто купіў месячны праязны білет — пераацэнцы яны падлягаць не будуць.**

**Аднак тым, хто ў знак пратэсту ўздумае адмовіцца ад транспартных паслуг, лепш вяртацца дамоў да надыходу цемнаты. У мэтах эканоміі электраэнергіі гарадскія ўлады далі ўказанне адключыць у Мінску ўсю светлавую рэкламу. Затое цепласеткі і гарачая вада ў кранах ахалодзяцца на 20 градусаў. Будзем загартоўвацца?..**

**Віктар КУКЛОЎ (БЕЛІНФАРМ).**

Мінск

### СЁННЯ ЎПЕРШЫНЮ ЗА 75 ГАДОЎ БЕЛАРУСЬ ЗЭКАНОМІЦЬ НА ЧЫРВОНЫМ ПАРКАЛІ

**Семдзесят пяць год назад у Петраградзе адбыўся ўзброены бальшавіцкі пераварот. Наступныя тры чвэрці стагоддзя гэты дзень лічыўся галоўным нацыянальным святам у СССР. Сёлета Беларусь упершыню афіцыйна не святкуе гадавіну кастрычніцкага штурму. Але камуністы па традыцыі плануюць прайсці пад чырвонымі сцягамі па галоўным праспекце сталіцы і правесці ўрачысты юбілейны мітынг у парку Горкага.**

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук:

# «ДЗЯРЖАЎНАЕ ДВУХМОЎЕ— ТРАЯНСКІ КОНЬ ДЛЯ АДРАДЖЭННЯ»

**Пры ўсёй незадаволенасці шчырых беларусаў ходам выканання Закона аб мовах ён патроху абуджае масы ад летаргічнага сну, падае надзею на выратаванне роднага слова. Менавіта ад таго, што рэалізацыя Закона прыадкрывае перспектыву, спрыяе паступоваму пераходу ад юрыдычнага статусу дзяржаўнасці беларускай мовы да фактычнага, праціўнікі яе адраджэння з такой актыўнасцю носяцца са шкоднай нашым нацыянальным інтарэсам ідэяй дзяржаўнага (афіцыйнага) двухмоўя.**

### АДНА НАЦЫЯ, АДНА ДЗЯРЖАВА — АДНА ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА

ДВУХ- І ШМАТМОЎЕ можна разглядаць у некалькіх зрэзах, у прыватнасці, у дачыненні да кожнай канкрэтнай асобы, да зносін людзей паміж сабой, да службовага справаводства дзяржаўных і грамадска-палітычных органаў, міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў. У першых двух выпадках дэмакратычная, цывілізаваная дзяржава не ўмешваецца ў рэгуляванне моўнымі працэсамі, але высока цэніць людзей, якія, акрамя роднай, валодаюць і іншымі мовамі. Затое ў трэцім выпадку дзяржава і толькі дзяржава вызначае, якой ці якімі мовамі павінны абслугоўвацца тыя ці іншыя віды службовага справаводства, культура, асвета, навука і г. д. Рознага роду грамадскія арганізацыі і ініцыятыўныя групы могуць толькі ўваходзіць у кампетэнтныя дзяржаўныя органы са сваімі прапановамі адносна выбару мовы. Але робіцца гэты выбар з усебаковым улікам карэнных інтарэсаў перш за ўсё нацыі, якая жыве на сваёй гістарычнай зямлі і мае тут уласную дзяржаву. У пытаннях мовы паміж апошняй і яе асноўнай нацыяй звычайна існуе поўнае паразуменне.

Будучы лагічным вынікам развіцця самой нацыі, дзяржава ўвесь час нібыта аддзячвае ёй за сваё нараджэнне карыснай стваральнай дзейнасцю. У шчаслівым жыцці ўласнага народа нацыянальная дзяржава бачыць сваё галоўнае прызначэнне. Апроч усяго іншага прыстойнае духоўнае жыццё ў найбольшай ступені прадвызначаецца трывалымі пазіцыямі, дыяпазонам сацыяльных функцый нацыянальнай мовы. Яе вызначальная роля ў лёсе кожнага этнасу ўжо даўно не з'яўляецца сакрэтам для буйных дзяржаўных дзеячаў, у чым вялікая заслуга вучоных, якія ў сваіх працах пераканаўча абгрунтавалі, што ў нацыянальных краінах, а да такіх адносіцца і Рэспубліка Беларусь, зусім няма патрэбы ў афіцыйным двухмоўі. Няма таму, што гэта будзе вымагаць не толькі значных дадатковых матэрыяльных і фінансавых сродкаў, але і параджаць непатрэбную канкурэнцыю паміж роднай і чужой мовамі, вынікі якой не заўсёды могуць прынесці карысць першай. Каб пазбегнуць такой непрадбачанай сваімі вынікамі канкурэнцыі, не ставіць пад вялікую пагрозу існаванне свайго народа, як самабытнага этнасу, ніводная нацыянальная дзяржава добраахвотна не згаджаецца на наданне статусу афіцыйнай акрамя сваёй, яшчэ і чужой мове. Невыпадкова на такі крок не пайшлі і, упэўнены, не пойдуць такія нацыянальныя дзяржавы, як Англія, Германія, Францыя, Італія, Іспанія, хаця ў іх гісторыі і культуры вельмі шмат чаго агульнага, роднаснага. А што датычыць першай з пералічаных краін, дык яна толькі тым і змагла ўмацаваць афіцыйныя пазіцыі сваёй нацыянальнай мовы, што з дапамогай дзяржаўнай улады мэтанакіравана выцесніла адусюль французскую мову, якой у сярэднявеччы з вялікім гонарам карысталіся заможныя пласты англійскага грамадства. Цяпер жа, зусім не баючыся сапсаваць добрасуседскія адносіны, наадварот, дзяржаўныя ўлады Францыі пільна сочаць і свядома не дапускаюць уплыву англійскай мовы на афіцыйнае справаводства. Ісінуюць нават санкцыі супраць тых, хто без усялякіх патрэбаў уносіць у службовыя французскамоўныя тэксты англійскія словы і выразы. Вось бы і нам дамагчыся хоць дзесятай долі такой увагі з боку дзяржавы да беларускай мовы. А яе ж сацыяльны спектр непараўнальна меншы, чым у французскай, хаця носьбіты як першай, так і другой жывуць у аднанацыянальных краінах.

У друку Рэспубліку Беларусь часта неправамерна называюць шматнацыянальнай дзяржавай і патрабуюць ледзь не для ўсіх, хто жыве на яе тэрыторыі, забяспечыць аднолькавыя з беларусамі магчымасці нацыянальна-культурнага развіцця. Не, дзяржава Беларусь з'яўляецца аднанацыянальнай, бо тут толькі адна — беларуская нацыя, а ўсе астатнія жыхары — гэта прадстаўнікі рускай, украінскай, польскай, літоўскай і іншых нацыянальнасцей, і кожная з іх мае сваю дзяржаву

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### Беларусь таксама не жадае быць міжнародным філантропам

Днямі ледзь ці не ва ўсіх інфармацыйных перадачах прагучала паведамленне аб тым, што Украіна і дзяржавы Прыбалтыкі адмаўляюцца плаціць свае, на іхні погляд, занадта вялікія ўзносы ў ААН. У гэтай інфармацыі была таксама і такая фраза: «...магчыма, да іх далучыцца і Беларусь». За каментарыем наш карэспандэнт звярнуўся да міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі:

— Пазіцыя Беларусі гэткая ж, як і ва Украіны і прыбалтыйскіх дзяржаў. Неабходная заява намі ў ААН ужо зроблена. Зараз там ідзе барацьба ў межах адпаведнага, Пятага, камітэта за размеркаванне велічыні ўзносаў.

Праўда, мы пакуль не хочам занадта актуалізаваць нашу пазіцыю, бо рыхтуецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаў, дзе, напэўна, будзе закранацца і гэтае пытанне.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## ПАРАДЫЁ ФАКТЫ

Зварот да Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла Магілёўская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Прычынай для гэтага паслужыла імкненне некаторых народных дэпутатаў навязаць беларускаму парламенту двухмоўе, пры якім рускую мову мяркуецца прызнаць дзяржаўнай. Члены таварыства лічаць такое імкненне зняважлівым для беларускай дзяржаўнасці.

***

**Незадавальняючай прызнаў парламент Расіі работу ўрада па рэалізацыі дакументаў аб ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Пракуратуры Расійскай Федэрацыі прапанавана разгледзець пытанне аб адказнасці за няправільныя дзеянні па рашэнню чарнобыльскіх праблем.**

***

У Вільнюсе ўведзена плата за ўезд у стары горад. Уехаць на легкавым аўтамабілі ў гістарычныя раёны літоўскай сталіцы цяпер каштуе 18 рублёў. За грузавы аўтамабіль або аўтобус прыйдзецца плаціць да 55 рублёў. Бясплатны праезд дазволены толькі карэтам «хуткай дапамогі», пажарным машынам і паліцыі.

***

**Звыш сямідзесяці мадыфікацый тэлевізараў выпускае зараз мінскае вытворчае аб'яднанне «Гарызонт». Праўда, цэны на іх растуць, як даражэе і наша жыццё. Перад спецыялістамі аб'яднання пастаўлена задача ў найкарацейшыя тэрміны распрацаваць мадэлі простых тэлевізараў, якія былі б па кішэні тым, хто жыве сёння за рысай беднасці.**

## АД ПАРЛАМЕНЦКАГА АГЛЯДАЛЬНІКА

# ПРА ШТРЫФЕЛІ ДЭПУТАЦКІХ ПІНЖАКОЎ, ЯК ЛЮСТЭРКА ПЛЮРАЛІЗМУ

Алергія на ўсё нацыянальна-гістарычнае — сімволіку, тэрміналогію, арфаграфію, — якая апанавала значную колькасць народных выбраннікаў, здаецца, набыла хранічныя формы. Наўрад ці памылюся, калі скажу, што да зацверджаных год назад у якасці дзяржаўных бел - чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» многія парламентарыі (асабліва тыя, каго выбіралі на сваіх сходах ветэраны) ставяцца з кепска прыхаванымі раздражненнем і непрыязнасцю. Не ўпускаюць моманту, каб змяшаць іх з брудам, называючы сімваламі «прафашысцкай марыянетачнай дзяржавы». Ігнаруюць бел - чырвона-белыя дэпутацкія значкі, дэманстратыўна носячы чырвона - зялёныя часоў БССР або не носячы ніякіх. Дарэчы, цікавы феномен: пасля зацвярджэння гістарычнай нацыянальнай сімволікі дэпутацкі корпус, які дагэтуль, мяркуючы па штрыфелях пінжакоў з аднолькавымі значкамі, выглядаў маналітна і аднастайна (за выключэннем Зянона Пазьняка), — пасля гэтай гістарычнай падзеі раскалоўся на тры няроўныя часткі. Так што цяпер ёсць магчымасць здалёк арыентавацца ў палітычных схільнасцях парламентарыяў. Можна толькі здзіўляцца, як гэтыя самыя людзі год назад прагаласавалі за гістарычныя сімвалы, якімі цяпер пагарджаюць і якія адкрыта зневажаюць.

За год шок ад развалу імперыі мінуў, разгубленасць змянілася шчымлівай настальгіяй. І хоць надзея на рэванш, на рэстаўрацыю — не больш чым ілюзія, многія з цяперашніх дэпутатаў, як немаўля за асколкі разбітай цацкі, працягваюць хапацца за незваротна адыходзячыя ў нябыт рэшткі,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЗІГЗАГІ ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ

# ГКЧП мясцовага маштабу

Хто можа «прыкрыць» газету? Па меры магчымасці паспрабуем даць даведку.

У лацінаамерыканскай краіне — прыйшоўшая да ўлады хунта (па прывычцы). У перадінфарктным СССР — эфемерны ГКЧП (аднаразовая спроба). У цывілізаванай краіне— толькі суд (калі ёсць неабходнасць пакараць за парушэнні канстытуцыі і закона). А ў нашай Беларусі, у прыватнасці, у Мінску? У сталіцы рэспублікі унтэр-прышыбееўскую місію смела бяруць на сябе некаторыя сувязісты.

Пра гэта паведаміў нам пенсіянер Г. Пачкайла, які з-за прыхільнасці да «Звязды» і неўтаймоўнага жадання падпісацца на яе і на наступны год, патраціў шмат нервовых клетак. Вось што расказвае сам Георгій Канстанцінавіч пра сваё блуканні ў цесных лабірынтах паштовага аддзялення сувязі № 107, якое размясцілася па Партызанскаму праспекту, 34 і «паслугамі» якога ён карыстаецца:

— Прыйшоў я раніцай у паштовае аддзяленне і ўбачыў там аб'яву, у якой сказана, што падпіска на газеты і часопісы Беларусі прадоўжана да 15 лістапада. Значыць, падумаў я, ніякіх праблем няма і змагу падпісацца на сваю старую сяброўку «Звязду». Аднак жа не! Жанчына - аператар злосна адсекла: «Што, не бачыце: у пераліку ніякай «Звязды» не запісана. Падпіску афармляць не буду, і не перашкаджайце працаваць!» Так і пайшоў ні з чым: не біцца ж мне з сувязістамі, а нармальных чалавечых слоў яны не разумеюць.

Што тут скажаш? Чалавек з вялікай цяжкасцю змог адарваць ад небагатага сямейнага бюджэту неабходныя 120 рублёў, спадзяваўся — і раптам ад варот паварот. Узялі ды і пазбавілі грамадзяніна неабходнай газетнай інфармацыі, замахнуліся на яго правы. Аднак вось ужо калі па-сапраўднаму праявілася ісціна: не аб адным хлебе жыве чалавек. Г. Пачкайла, інвалід працы другой групы, нягледзячы на хваробу, вырашыў праявіць характар, пазмагацца за духоўную ежу. І пазваніў у рэдакцыю.

Па сваёй наіўнасці мы далі яму, як высветлілася пазней, вельмі ж прымітыўную параду: схадзіць у паштовае аддзяленне яшчэ раз і вырашыць свае праблемы ў рабочым, так сказаць, парадку. Сапраўды, каму невядома, што Міністэрства сувязі і інфарматыкі прыняло адназначнае рашэнне — прадоўжыць падпіску на ўсе (падкрэсліваем — усе!) беларускія выданні да 15 лістапада. Падумалася: хто з сістэмы той жа сувязі пры наяўнасці розуму і цвярозай памяці возьме на сябе смеласць узяць, ды і адкінуць рашэнні міністэрства, што называецца, «адной левай»?

Падштурхнуты нашымі «разумнымі парадамі» (за што і просім цяпер прабачэння), аматар перыёдыкі зноў звярнуўся па старому адрасу і зноў... атрымаў, вобразна кажучы, плявок у твар.

...Ці можна ўсур'ёз прыняць тлумачэнні прычын скандалу, якія дае намеснік начальніка паштовага аддзялення А. Арэнская?

— Я нядаўна прыйшла з адпачынку і яшчэ не ведала аб новай сітуацыі ў правядзенні падпіскі, — з жаночай непасрэднасцю заявіла Аляксандра Максімаўна. — Прынясём свае прабачэнні грамадзяніну Пачкайла і, калі трэба, прыйдзем да яго дадому, каб падпісаць на газету. Канфлікт будзе вычарпаны, і навошта тады пра ўсё гэта пісаць?

Што ж, паглядзім на сітуацыю як на прыватны выпадак і «замнём для яснасці»? Растлумачым нашу пазіцыю: «Звязда» ўжо намнога перакрыла свой мінулагодні тыраж, і нам, здавалася б, няма патрэбы з усяе сілы змагацца за кожнага дадатковага падпісчыка. Але мы стаім на тым, што абавязаны абараняць законнае права кожнага грамадзяніна Беларусі мець у доме любое дазволенае ў нас выданне—ад дзіцячай «Пралескі» да амерыканскай «Нью-Йорк таймс». Ёсць і іншая прычына, каб надаць прыведзенаму факту адпаведны рэзананс.

— Добра, дарую я сувязістам іх грубасць, — некалькі супакоіўшыся, гаворыць Г. Пачкайла. — Яшчэ з большым жаданнем падпішуся на «Звязду» пакольки мне гэта раней забаранілі. Аднак падазраю, што на нашай пошце могуць выкінуць падобны фінт і з кім-небудзь іншым. Ці не ўзнікне яшчэ дзе-небудзь жадання пад надуманымі прычынамі адлучыць нас, беларусаў, ад выданняў, якія гавораць з намі на нашай роднай мове?

Паважаючы думку ветэрана працы, мы выносім яго маленькую эпапею на суд грамадскасці.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## БЕЛАРУСІ ПАТРЭБЕН НЕ ШАКАЛАД, А ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ВАЛЮТА

**Конкурсы сёння праводзяцца розныя і даволі часта. Яны ўпрыгожваюць наша жыццё. Конкурс, які праводзіцца ў рэдакцыі «Звязды»,—не з разраду відовішчных, але тым не менш... Нам трэба вызначыць лепшага журналіста газеты за 1992 год. Заснавальнікі прыза — прыгожай хрустальнай вазы, зробленай рукамі майстроў шклозавода «Нёман», — калектыў беларуска-латвійскай фірмы «Лідзія». Генеральны дырэктар «Лідзіі» Уладзімір Ксёнз. Яго імя добра вядома чытачам «Звязды».**

— Гэты прыз мы ўстанавілі ў гонар 75-годдзя нашай самай шаноўнай газеты. Мы хацелі б, каб ён быў уручаны журналісту, які найбольш востра і сумленна пісаў сёлета аб праблемах жыцця рэспублікі.

**— Уладзімір Пятровіч, некалькі слоў пра вашу фірму.**

— Галоўная мэта сумеснага беларуска-латвійскага прадпрыемства — арганізацыя нармальнага, еўрапейскага сервіснага абслугоўвання. Кафэ, бары, прадуктовыя магазіны... Вы ведаеце, які стан спраў тут, які дызайн, узровень абслугоўвання. Тым больш, у нашых слаўных райцэнтрах. Вось чаму «Лідзія» асталявалася ў горадзе Ліда. Усё абсталяванне будзем дастаўляць з Латвіі. Апрача Ліды, плануем таксама працаваць у Слоніме, Навагрудку, Шчучыне... У еўрапейскай краіне, карацей, усё павінна быць на еўрапейскім узроўні, тым больш у бытавой сферы. Напэўна, гэта будзе нялёгкая справа. Літаральна толькі тыдзень назад адкрыўся рублёвы эквівалент, а да гэтага расплачвацца з прыбалтыйскай рэспублікай практычна не было ніякай магчымасці. Мы прыхільнікі больш увозіць у Беларусь і менш вывозіць. На сённяшнім этапе развіцця рэспублікі гэта, на мой погляд, асноўная задача большасці сумесных фірм. Вядома ж, пры адной умове: увозіць трэба не шакалад, цыгарэты ці віно. Нам патрэбны тэхналогія, станкі і абсталяванне. Гэта аснова...

**— Вы наш даўні аўтар. Яшчэ жывучы ў Рызе, прысылалі матэрыялы аб сваім бачанні праблем і перспектыў развіцця Беларусі. І вось вы тут...**

— Хацелася б выдзеліць некалькі момантаў. Галоўнае пытанне зараз — аб рэферэндуме. Мая думка — рэспубліцы патрэбен спачатку прэзідэнт, а ўжо затым можна думаць пра рэферэндум. Неабходна ўмацаваць заканадаўчую ўладу, стварыць прававую аснову. Для такой пасады патрэбен чалавек з сапраўды дзяржаўным розумам. Я лічу, што ў рэспубліцы ёсць такі палітычны дзеяч. Гэта — Станіслаў Шушкевіч.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 7 ДЗЁН, ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850,
ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.

# «ДЗЯРЖАЎНАЕ ДВУХМОЎЕ— ТРАЯНСКІ КОНЬ ДЛЯ АДРАДЖЭННЯ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

на ўласнай гістарычнай радзіме. У дачыненні да іх можна ўжываць тэрміны: дыяспара, нацыянальная група, як гэта мы часта зусім правамерна гаворым пра беларусаў, што жывуць у Расіі, на Украіне, у Казахстане, Малдове і г. д.

Памылкова думаць, што мовы, як вынік высокай духоўнай творчасці народаў, схільны ці здольны ў межах адной і той жа тэрыторыі жыць толькі ў поўнай згодзе і вялікім сяброўстве. Наадварот, у такой сітуацыі яны паводзяць сябе надзвычай агрэсіўна, імкнуцца жыць і жывуць за кошт адна адной.

Небяспека афіцыйнага, ці інакш дзяржаўнага двухмоўя заключаецца ў тым, што яно непазбежна перакідваецца і на тыя сферы жыцця, якія ўжо юрыдычна не падлягаюць свядомаму рэгуляванню. Знаходзячыся ў цесных кантактах паміж сабой, людзі самі, без усялякага ўдзелу дзяржавы, выбіраюць сабе мову ў якасці сродку зносін. Пры афіцыйным аднамоўі ёю будзе звычайна з'яўляцца тая, на якой вядзецца службовае справаводства, будуецца навучальна-выхаваўчы працэс у школах, тэхнікумах і інстытутах, ладзіцца дзейнасць устаноў культуры і навукі. І паколькі ў абсалютнай большасці краін свету з афіцыйным аднамоўем для абслугоўвання даных відаў дзейнасці чалавека ўжываецца родная мова іх карэннага насельніцтва, ёй не пагражаюць аніякія катаклізмы. Затое пры афіцыйным двухмоўі яна можа і не выкарыстоўвацца для абслугоўвання пералічаных вышэй відаў дзейнасці чалавека, а таксама ў сферах, моўныя працэсы ў якіх не падлягаюць дзяржаўнаму рэгуляванню. Гэта можа закончыцца для яе трагічнымі вынікамі, бо працяглае паралельнае суіснаванне ў адной і той жа ў аснове сваёй монанацыянальнай краіне дзвюх моў — справа зусім не рэальная. Адной з іх дзяржавай і самім грамадствам абавязкова будзе аддадзена перавага, а другая паступова выйдзе з ужытку.

Сусветная практыка ведае нямала фактаў знікнення мовы карэннага насельніцтва ад прымусовага ці добраахвотнага распаўсюджвання ў яе дзяржаўным, грамадска-палітычным жыцці, у культуры, адукацыі, навуцы і яшчэ якой-небудзь іншай мовы. Таму нам, беларусам, на сённяшнім вітку развіцця цывілізацыі не варта паўтараць іх горкі вопыт, калі мы толькі жадаем сцвердзіцца, замацавацца сярод народаў нашай планеты самабытнай нацыяй.

**Выступаць цяпер за дзяржаўнае двухмоўе, калі беларуская мова знаходзіцца яшчэ на нулявым цыкле адраджэння, — гэта значыць рыхтаваць ёй немінучую пагібель, а для рускай — стварыць надзейныя гарантыі далейшага функцыянавання ва ўсіх сферах беларускага жыцця, забываючы, што ў яе ёсць свая велізарнейшая гістарычная тэрыторыя.**

## КАМУ І НАВОШТА ПАТРЭБЕН МОЎНЫ РЭФЕРЭНДУМ

НЕ МОЖА НЕ ЗДЗІЎЛЯЦЬ, з якой настырнасцю ваююць многія грамадзяне нашай краіны за знішчэнне беларускай мовы. «Плённа» працуюць на гэтую агідную справу розныя сацыялагічныя службы, рэдакцыі шэрагу газет і часопісаў. І трэба сказаць, што іх данымі досыць ахвотна карыстаюцца працаўнікі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Пільна сачу і я за інфармацыяй сацыёлагаў аб беларускай мове. Зусім не радуюць іх звесткі, а яшчэ больш засмучае адсутнасць у аўтараў такіх распрацовак усялякага жадання паказаць на падставе глыбокага, аб'ектыўнага аналізу сацыялагічных матэрыялаў рэальнае выйсце з тупіка, у якім па віне нацыянальнай палітыкі КПСС апынулася наша роднае слова. Пакуль што ў высновах і палажэннях сацыялагічных службаў я не знайшоў—даруйце, калі не так шукаў — ні грама пазітыўнага, што магло б садзейнічаць лепшаму разуменню, а тым больш прыняццю дзяржавай канкрэтных захадаў па вырашэнню такой неардынарнай у сённяшніх варунках Беларусі культурна-моўнай праблемы.

Многія прыхільнікі дзяржаўнага двухмоўя ў абгрунтаванне свайго погляду высоўваюць тэзіс: нашаму краю заўсёды характэрна было натуральнае беларуска-рускае двухмоўе. Не буду пісаць, з якім гвалтам царскі ўрад насаджаў рускую мову да кастрычніцкага перавароту 1917 года, бо гэта ўсім добра вядома, як і вядома, што з той практыкі нямала запазычылі і пры правядзенні нацыянальна-моўнай палітыкі ў савецкі час. Што ж датычыць перыяду пасля другой сусветнай вайны, дык тут не толькі натуральнага, але нават і прымусовага двухмоўя не было. У афіцыйным жыцці скрозь панаваў дыктат рускай мовы. Гэта асабліва добра адчувалася ў дзейнасці партыйных і дзяржаўных, прафсаюзных і камсамольскіх органаў усіх узроўняў, наркаматаў (міністэрстваў) і ведамстваў, устаноў навукі, вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы, якія і думкі не дапускалі аб выкарыстанні беларускай мовы. Трохі пазней пры самай непасрэднай падтрымцы зверху рускай мове насцеж адчынілі дзверы ў гарадскія агульнаадукацыйныя школы, што адразу ж пахіснула пазіцыі роднага слова беларусаў і ва ўстановах такога тыпу сельскай мясцовасці.

За час сваёй навуковай дзейнасці давялося шмат папрацаваць у архівах, добра знаёмы з пасляваенным перыядычным друкам і нідзе нават намёку не знайшоў на правядзенне моўнага рэферэндуму ў межах усёй рэспублікі ці якога-небудзь яе раёна. А сёння ж з ідэяй такога рэферэндуму носяцца і тыя, хто ў першыя два пасляваенныя дзесяцігоддзі быў сталым чалавекам, больш-менш разбіраўся што да чаго, але пра лінгвістычнае апытанне насельніцтва нават і не думаў. Чаму? Бо пры той нацыянальнай самасвядомасці беларусаў яны не пайшлі б на ахвяраванне сваёй роднай мовай, якая мела трывалыя пазіцыі ў асяроддзі народа, не абмянялі б яе ў ходзе рэферэндуму на любую «развітую» мову. Бо пры характэрнай таму часу накіраванасці нацыянальнай палітыкі цэнтра нядобразычліўцы самабытнага духоўнага жыцця нашага краю і так добра бачылі, што партыйныя і дзяржаўныя функцыянеры ў любых выпадках давядуць да непазбежнай пагібелі беларускую мову. Цяпер жа, наадварот, ім вельмі патрэбен рэферэндум, бо не знаходзяць больш надзейнага сродку, каб пакончыць з гэтай неўміручай, нягледзячы на ўсе перыпетыі, мовай. Часта можна прачытаць ці пачуць такое: з ажыццяўленнем ідэі рэферэндуму, які дапаможа рускай мове набыць юрыдычна статус дзяржаўнай, беларусам нібыта адкрываецца шырокі прасцяг, каб жыць і развівацца паводле агульначалавечых, планетарных ідэалаў. Паводле агульнасаюзных, агульнасавецкіх ідэалаў мы ўжо жылі больш за сем дзесяткаў гадоў і ведаем, да чаго гэта прывяло. Цяпер нас цешаць нечым яшчэ больш маштабным і глабальным: планетарнымі ідэаламі, хаця мы не навучыліся як след жыць нацыянальнымі стандартамі. Прапаноўваецца ісці да такіх ідэалаў праз рускую культуру. Але ці не збяднеюць яны, калі пры такіх абставінах беларусы са сваіх нацыянальных ідэалаў страцяць самае каштоўнае і дарагое — уласную родную мову? Яе ж не раз заганяла ў кут блізкароднасная руская мова! Вось аб гэтым хацелася, каб не забываліся нашыя «вялікія інтэрнацыяналісты», змагары за агульначалавечыя ідэалы, за моўны рэферэндум. А калі ўжо камусьці так патрэбен рэферэндум, дык давайце правядзём яго пасля таго, як у нашай суверэннай дзяржаве на змену рускай мове рэальна прыйдзе беларуская ва ўсе віды службовага справаводства органаў улады і кіравання, ва ўстановы народнай асветы, культуры і навукі. Навошта ж так злосна здзеквацца з народа: яго роднае слова на цэлае паўстагоддзе выключылі з пералічаных вышэй сфераў, а цяпер праз рэферэндум збіраемся высветліць, адданы ён ці не свайму найкаштоўнейшаму нацыянальнаму скарбу?

Калі наша дзяржава паставіла мэтай: адрадзіць нацыянальныя духоўныя традыцыі, у адпаведнасці з імі ладзіць жыццё сваіх грамадзян, яна не павінна ў такой неспрыяльнай для беларускай мовы сітуацыі згадзіцца на вызначэнне яе далейшага лёсу выключна толькі праз рэферэндум. Дашчэнту зрусіфікаваныя, з моцна размытай нацыянальнай самасвядомасцю беларусы — а іх жа не па сваёй віне мільёны—не могуць быць сур'ёзнымі дарадчыкамі дзяржавы ў вырашэнні гэтага надзвычай важнага пытання. Слушныя словы аднаго з вядомых філосафаў, што «народ можа памыляцца не менш, чым яго ўрад», як нельга лепш дапасоўваюцца і да многіх беларусаў.

Можна было б парэкамендаваць таму, каму не дае спаць ідэя рэферэндуму, прыглядзецца да вопыту нашых суседзяў —Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі. На этнічных тэрыторыях пражывання іх карэннага насельніцтва няма ж дзяржаўнага двухмоўя. Чаму ж сярод сваіх суседзяў мы павінны быць белай варонай?! Чаму гэта толькі мы хочам рабіць тое, што лічаць для сябе непасільным і непатрэбным народы з куды больш высокім узроўнем развіцця нацыянальнай культуры?

## ІСЦІ Ў СВЕТ СА СВАІМ ТВАРАМ

СЁННЯ НАЎРАД ЦІ ХТО-НЕБУДЗЬ в цвярозых людзей будзе аспрэчваць факт глыбокага заняпаду беларускай мовы, яе хранічнага захворвання. Але ж мы добра ведаем, калі хтосьці захварэе ў сям'і, уся ўвага канцэнтруецца на ім. Неадкладна выдзяляць самае ўтульнае месца ў пакоі, патурбуюцца пра каларыйную і смачную ежу, адшукаюць самага кваліфікаванага лекара. Затое з прапановамі па такім архіскладаным навуковым, філасофскім пытанні, як дзяржаўнае двухмоўе, часта выступаюць асобы, адукацыйны і прафесійны статус якіх нічога агульнага не мае з данай галіной ведаў. Не раз думаў, добра, што хоць у нас не практыкуецца, каб рэзчыкі па метале ці дрэве выдалялі ў хворага кілу альбо апендыкс. Зразумела, не практыкуецца таму, каб на аперацыйных сталах не было ахвяраў ад такіх «старанняў». Дык можа давайце і беларускую мову засцеражом ад такіх «прафесіяналаў»?

Малюнак Валерыя ВЯРЦЕЙКІ.

Зусім не па нашай віне сталася так, што з усіх нацый, імя якіх насілі саюзныя рэспублікі былога СССР, толькі беларуская культура і мова апынуліся на мяжы выміраня. Зараз гэтай праблемай асабліва не заклапочаны ні адзін наш суседні народ, нават украінскі, дзе апошнім часам, дзякаваць Богу, набрала моц іх нацыянальна-культурнае адраджэнне. Таму не толькі не супярэчыць, а нават заканамерна вынікае з самой сутнасці гуманных узаемаадносін людзей рознага нацыянальнага паходжання вострая неабходнасць забяспечыць на ўзроўні дзяржавы і ўсяго нашага грамадства прэстыжныя ўмовы для беларускай культуры і мовы ў імя іх выратавання. А як ставімся да данай праблемы мы? Чыста ў духу беларускай талерантнасці. Дужа захваляваліся, што могуць пахіснуцца пазіцыі мовы, носьбітамі якой сталі многія з нас у выніку старанна распрацаванай і ўдала праведзенай палітыкі русіфікацыі. Ці не смяшым мы іншыя народы сваім упартым змаганнем за рускую мову, калі родная, беларуская дыхае на ладан? Лічу, што і смешым, а яшчэ больш — здзіўляем, бо такога нідзе больш у прыродзе не сустракаецца.

**Беларусы, што выракліся ці яшчэ выракуцца сваёй культуры, засвояць рускую, польскую і г. д., ніколі не будуць адчуваць сябе на адным узроўні з тымі, каму па крыві належаць гэтыя духоўныя каштоўнасці. Як бы яны ні стараліся думаць адваротнае, упэўнены, у часы глыбокага роздуму над лёсам уласнага народа і сваім асабістым іх абавязкова будзе агортваць комплекс непаўнавартасці і не выключана, што калі-ніколі агорне мацнейшая настальгія па родным, нацыянальным.**

Не толькі на прыкладзе Беларусі, але і практычна ўсіх колішніх саюзных рэспублік не пацвярджаецца, што на стане іх нацыянальнага духоўнага жыцця пазітыўна адбілася шырокае пранікненне ў яго здабыткаў рускай культуры і мовы. Наадварот, найбольш развітымі, здаровымі нацыянальныя культуры аказаліся ў тых рэспубліках, дзе, нягледзячы на жорсткі прэсінг мэтанакіраванай асіміляцыі, змаглі, не ў прыклад Беларусі, увесці абмежаванні на экспарт у розныя сферы іх грамадскага жыцця рускай культуры і мовы. Няцяжка зразумець, колькі карысці далі і даюць сусветнай цывілізацыі гэтыя рэспублікі, ўратаваўшы свае нацыянальныя культуры і мовы. Зрабі яны так, як мы, беларусы, як бы намнога бяднейшым стаў духоўны патэнцыял планеты Зямля!

Не навучыўшыся жыць паводле нацыянальных стандартаў, нельга будаваць планы аб уваходжанні ў еўрапейскую, а тым больш сусветную цывілізацыю. Там мы акажамся ні чым іншым, як пласцілінавай масай, з якой высокакультурныя этнасы будуць ляпіць тое, што ім задумаецца. Таму мы яшчэ не маем права так падкрэслена, катэгарычна ставіць на першае месца агульначалавечыя ідэалы перад нацыянальнымі.

Цалкам не падзяляю і лічу нават нацыянальна варожымі думкі, незалежна ад таго, з якой мэтай яны выказваюцца, што ў беларусаў нібыта няма аніякіх шанцаў на выратаванне роднай мовы. Ёсць! Уся бяда толькі ў тым, што мы іх дрэнна выкарыстоўваем, што да вырашэння гэтай архіскладанай праблемы, як след, не падключылася сама дзяржава. Беларусам нават куды лягчэй будзе вярнуцца да сваёй нацыянальнай мовы, чым многім неславянскім народам колішняга СССР, паколькі яна ў нас выпхнута з роднай хаты па многіх параметрах блізкай для разумення рускай мовай. Зрабіць ад яе пераход да беларускай — гэта не тое, што выканаць падобнае ў дачыненні да чувашскай, удмурцкай, марыйскай ці іншых моваў, якія сёння таксама знаходзяцца ў вялікім заняпадзе.

**Дзяржаўнае двух- і шматмоўе мае права на жыццё толькі ў поліэтнічных дзяржавах з развітай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміяй. Так гістарычна склалася — і не будзем шкадаваць аб гэтым,—што Беларусь была, ёсць і застанецца АДНАНАЦЫЯНАЛЬНАЙ дзяржавай.** У ёй, як зазначалася вышэй, толькі адна карэнная нацыя — беларуская. У межах Беларусі няма ні рускіх, ні польскіх, ні літоўскіх, ні ўкраінскіх, ні латышскіх і да т. п. этнічных тэрыторый. Былі б, тады можна было б падумаць аб практычным увядзенні і ў нас дзяржаўнага двух- і шматмоўя. Паколькі іх няма, урад Рэспублікі Беларусі павінен клапаціцца аб культурна-моўным, сацыяльным развіцці сваіх нацыянальных меншасцяў прыкладна так, як гэта робіць для беларусаў у рэспубліках былога СССР. Пад наш час краіны свету набылі даволі багаты вопыт арганізацыі жыцця нацменшасцяў на тэрыторыях карэннага этнасу. Такім вопытам не грэх карыстацца і нашай дзяржаве.

Адсутнасць афіцыйнага двухмоўя, бясспрэчна, станоўча адаб'ецца на павышэнні сацыяльнай ролі роднага слова беларусаў, што не з'явіцца перашкодай для многіх з іх стаць білінгвамі і полілінгвамі. Наадварот, толькі пры такіх варунках шырокую прастору атрымае двух- і шматмоўе кожнай канкрэтнай асобы ці зносін людзей паміж сабой, што лёгка пацвердзіць спасылкамі на вопыт амаль любой капіталістычнай краіны Еўропы з яе дзяржаўным аднамоўем. Пры велізарнай пашане да роднага слова еўрапейскія народы намнога лепш за нас, хто так масава выракся яго, ведаюць іншыя мовы.

Зусім не прымаю пагляду, што для беларускай мовы будзе дастаткова захаваць яе сённяшнія пазіцыі ў мастацкай літаратуры, сродках масавай інфармацыі, трохі пашырыць іх у народнай асвеце, а ўсе найважнейшыя сферы грамадскага жыцця пакінуць толькі за рускай, бо яна, маўляў, ужо гэтулькі часу так няблага спраўлялася і спраўляецца з выкананнем падобнага роду сацыяльных функцый.

**Катэгарычна адхіляю, як памылковыя, думкі, што, адраджаючы сваю культуру і мову, беларусы рыхтуюць сабе ізаляцыю ад цывілізаванага свету. Калі заглянуць у мінулае, дык лёгка пераконваешся: беларуская культура нават у сярэднявечны не абмяжоўвалася сваёй гістарычнай тэрыторыяй, не спынялася на стадыі фальклорнага развіцця, хаця і грунтавалася на ўсебаковым выкарыстанні найлепшых каштоўнасцяў народнай творчасці. Так і сёння, максімальна задавальняючы свае духоўныя запатрабаванні ўласна нацыянальным, беларускі народ, напэўна ж, будзе цягнуцца да культурных здабыткаў іншых народаў.**

І трэба добра ведаць, што ў Еўропу ён зможа прабіць сабе шлях толькі сваімі арыгінальнымі духоўнымі каштоўнасцямі і нацыянальнай мовай, а не чужымі, і ісці сюды трэба не з размытай, дэманцыраванай нацыянальнай самасвядомасцю, а з цвёрдымі поглядамі на сябе як на самабытны, адметны ад іншых народаў этнас. А каб узбагаціць духоўны патэнцыял, моўную палітру Еўропы, нам трэба абавязкова мець свае развітыя ва ўсіх адносінах культуры і мову. Такой апошняя ў нас ніколі не будзе, калі мы, як гэта нам раяць нашыя суайчыннікі, пачнём у навукова-тэхнічнай і дзелавой сферах ужываць англійскую, а не беларускую мову. З гэтым, думаю, не пагодзіцца нават самы артадаксальны прадстаўнік англійскай і амерыканскай нацый, і абавязкова стане на бок карэнных нацыянальных інтарэсаў беларусаў. У сувязі з навязваннем такіх надуманых, шкодных прапаноў узнікаюць пытанні: няўжо нам мала рускамоўнай асіміляцыі, што нас яшчэ штурхаюць і да англамоўнай? Няўжо мы такія адсталыя, што не ў стане, як іншыя народы, авалодаць англійскай мовай, не забываючы сваёй роднай? Дзякаваць Богу, мы ўжо не такія зацюканыя, як раней, і ніколі не паквапімся на любыя расквечаныя, пекныя ідэйкі, бо добра ведаем, што яны ўсё ж скіраваны не на ўмацаванне пазіцый і павышэнне прэстыжу беларускай нацыі, а, наадварот, на тое, каб выкінуць яе на сметнік цывілізацыі.

---

БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ

СТАРШЫНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА САВЕТА ФЕДЭРАЛЬНАГА СХОДУ ШВЕЙЦАРСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ ХАНС-РУДОЛЬФ НЕБІКЕР:

# «Вам вырашаць, якім павінен быць тэмп пераўтварэнняў...»

**Кантакты лідэраў дзвюх краін — Швейцарыі і Беларусі — пачаліся ў лютым гэтага года, калі Старшыня Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі Станіслаў Шушкевіч прымаў удзел у міжнароднай канферэнцыі ў Давосе. Тады ж ён наведаў сталіцу Альпійскай дзяржавы—Берн і парламент. І вось — візіт у адказ старшыні Нацыянальнага савета Федэральнага сходу Швейцарыі Ханса-Рудольфа Небікера.**

**...Дабраліся высокі госць і ягоная світа ў нашу сталіцу без асаблівых праблем. Два тыдні назад адкрыта новая паветраная авіялінія Мінск — Берн, і цяпер усяго за тры гадзіны можна патрапіць з адной суверэннай краіны ў другую.**

**Некалькі слоў пра спадара Небікера. Яму — 63 гады. Пачынаў кар'еру палітычнага і дзяржаўнага дзеяча з нізоў: на працягу 12 гадоў быў членам камунальнага ўрада невялікага горада Пратэльн, а з 1975-га — дэпутат Нацыянальнага савета. Чатыры гады ўзначальваў парламенцкую фракцыю Швейцарскай народнай партыі, а ў лістападзе 1991-га выбраны старшынёй парламента.**

**Скажу адразу: нам, журналістам, як між іншым, і дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, перад якімі Ханс-Рудольф Небікер выступіў з 15-мінутнай прамовай, адразу ж спадабаліся ягоныя адкрытасць, шчырасць і цвёрдасць у ацэнках. Гэта, вядома ж, «вынікі» багатага вопыту жыцця і палітычнай дзейнасці, глыбокае веданне сучасных працэсаў, што адбываюцца ў самых розных кутках свету. Акрамя гэтага, спадар Небікер — цікавы і разважлівы, памяркоўны і адначасова катэгарычны субяседнік.**

— Крах камунізму даў магчымасць народам былога Саюза ССР зноў набыць свой нацыянальны твар, — сказаў госць, выступаючы перад беларускімі парламентарыямі. — Вы зноў увялі ва ўжыванне сваю беларускую мову, зноў развіваецца нацыянальны бела - чырвона - белы сцяг над вашай Айчынай. 23 снежня 1991 года Швейцарыя прызнала суверэнітэт Беларусі. Вы можаце ганарыцца сваім слаўным мінулым на працягу цэлых стагоддзяў, хоць ваш край і акупіравалі асобныя вашы суседзі... Я ведаю пра тыя вялізныя страты, якія вы панеслі ў ходзе другой сусветнай вайны, змагаючыся за свабоду. Я таксама выразна ўяўляю, наколькі жудасныя і вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, што чорнай хмарай накрыла Беларусь.

Аднак цяпер, працягваў Х.-Р. Небікер, у вашай гісторыі перагорнута новая старонка — пасля набыцця вамі поўнай незалежнасці.

А потым старшыня Нацыянальнага савета адказваў на нашы пытанні.

**— Калі, на вашу думку, Рэспубліка Беларусь зможа стаць раўнапраўнай еўрапейскай дзяржавай?**

— У Беларусі я ўпершыню, пагэтаму мне ўсё так нова і цікава. Швейцарыя і Беларусь маюць шмат чаго агульнага — як у мэтах, так і ў сродках іх дасягнення. Гэта — мэты захавання правоў чалавека. Нашы краіны сярэднія, мы і вы — нейтральныя. Мы — краіна старой дэмакратыі, аднак і ў нас вырашаны далёка не ўсе праблемы. Дэмакратыя — жывы, растучы арганізм, і трэба пастаянна яе развіваць, шукаць для яе раўнадзейнасць. Заўважу таксама і наступнае: мы маем з вамі адну і тую ж хрысціянскую спадчыну.

Уражанні аб Беларусі вялікія і добрыя. Радуе ваша імкненне стаць сапраўды незалежнай дэмакратычнай дзяржавай, ісці па шляху свабоднай рынкавай эканомікі. Гэты працэс вельмі працяглы. Ён патрабуе шмат часу, бо нельга ж, павярнуўшы нейкі ўключальнік, адразу ж апынуцца ў іншай сітуацыі... Ажыццяўленне рынкавай рэформы немагчыма без правядзення карэнных пераўтварэнняў у сацыяльна-эканамічным жыцці. І вам самім вырашаць, якім павінен быць тэмп гэтых пераўтварэнняў.

Я хацеў бы падкрэсліць прамую сувязь паміж свабоднай эканомікай і дэмакратыяй. Першыя дэмакратычныя выбары ў вас прайшлі ў 1990 годзе. Мы ведаем, што асобныя вашы грамадзяне хацелі б правесці цяпер новыя, датэрміновыя выбары. Ведаем: парламент вырашыў правесці іх у 1994 годзе. Спадзяюся, што розныя дэмакратычныя партыі ўмацуюць да таго часу свае сувязі, каб адыграць істотную ролю ў плюралістычным і дэмакратычным грамадстве.

Адносіны са светам вы сёння павінны будаваць у першую чаргу на базе раўнапраўя, нейтралітэту, цесных кантактаў з іншымі дэмакратычнымі дзяржавамі. І тады час уступлення ў цывілізаваны свет, безумоўна, скароціцца.

**— Якія вам, спадар Небікер, бачацца бліжэйшыя перспектывы супрацоўніцтва Швейцарыі і Беларусі?**

— Важнейшым аспектам супрацоўніцтва дзяржаў стане, вядома ж, эканамічны аспект. На мой погляд, былым рэспублікам Савецкага Саюза сёння найперш патрэбен прыток прыватных інвестыцый. Аднак для таго, каб зацікавіць прыватных капіталаўкладальнікаў, патрэбны вельмі сур'ёзныя, прадуманыя ўмовы і меры. Інвестары не любяць, калі бачаць, што іхнія грошыкі плывуць невядома куды. Яны хочуць — хоць бы ў будучым — мець нейкі прыбытак ад сваіх капіталаўкладанняў. Лічу, што Беларусь мае добрыя ўмовы для плённага супрацоўніцтва. Тут і пэўная палітычная стабільнасць, і рынак збыту, і іншыя ўмовы. У Салігорску, напрыклад, на аб'яднанні «Беларуськалій» я сустрэў менеджэраў, якія з'яўляюцца сапраўднымі менеджэрамі еўрапейскага маштабу.

Стабільнасць у краінах СНД мае цяпер рашаючае значэнне для бяспекі на нашым кантыненце. І гэта мэта стане дасягальнай толькі ў тым выпадку, калі заходнія дзяржавы будуць аказваць ім падтрымку. Нам таксама важныя і вашы асабістыя рашэнні — важныя для заходніх інвестараў, таму што найбольш эфектыўнае супрацоўніцтва наладжваецца з прыватнымі фірмамі, а не толькі з дзяржаўнымі.

**— Якія вашы першыя ўражанні ад візіту ў Беларусь наогул?**

Твар Ханса-Рудольфа Небікера пасвятлеў:

— Галоўнае ўражанне — мне давядзецца вярнуцца сюды... Каб бліжэй пазнаёміцца з рэспублікай, з людзьмі, з вамі...

**— Спадар Небікер, для нас сёння вострай і актуальнай з'яўляецца праблема экалогіі, аховы навакольнага асяроддзя. Як вырашаецца яна ў вас?**

— У капіталістычным свеце ў гэтых адносінах таксама наробленa шмат памылак. Вы, відаць, чулі пра вялікую экалагічную катастрофу, у выніку якой быў нанесены моцны ўрон рацэ Рэйн. Каб выправіць яе, спатрэбіліся вялізныя капіталы.

Мы даўно зразумелі: для вырашэння экалагічных праблем, папярэджання іх патрэбны інвестыцыі. Сёння яны патрэбны і ў вас.

Скажу больш. Рыхтуючы дакументы аб прадастаўленні краінам Усходняй Еўропы крэдытаў і дзяржаўных інвестыцый, мы і маем намер прадаставіць іх у першую чаргу для такіх сфер, як медыцына, экалогія (у тым ліку і бяспека атамных электрастанцый), навука, выхаванне.

**— Швейцарыя да сённяшняга дня не з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый... Як гэта атрымалася?**

— Швейцарыя — краіна прамой дэмакратыі. Вы кажаце, што былі ў нас, значыцца, маглі пераканацца ў гэтым. Дык вось, калі паўстала пытанне: быць ці не быць ёй членам ААН, быў праведзены рэферэндум. Народ прагаласаваў супраць уступлення... Урад і парламент хацелі ўступіць у ААН, а людзі сказалі «не». Такім чынам, вы можаце бачыць, як няпроста кіраваць дзяржавай, дзе ўсё вырашае народ. Аднак насельніцтва Швейцарыі не такое ўжо і безнадзейнае. У маі яно прагаласавала за ўступленне ў Міжнародны валютны фонд: 58 працэнтаў насельніцтва выказалася за гэта. Думаю, што ў ходзе наступнага рэферэндуму — 6 снежня, калі будзе вырашацца пытанне аб уступленні ў ЕЭС, мы таксама атрымаем станоўчы вынік.

**— Спадар Небікер! Што вы скажаце сваім інвестарам, вярнуўшыся з Мінска: укладваць капіталы ў эканоміку Беларусі зараз ці пачакаць?**

— Чакаць нельга. У бізнесе вельмі часта трэба ў пэўнай меры і рызыкаваць. Той, хто гэту дзейнасць пачне зараз, будзе мець добрыя магчымасці ў будучым. Пазней жа ўзнікнуць складанасці з рэалізацыяй задум. Дарэчы, у Салігорску нашы інвестары ўжо гатовы ўкладваць грошы.

**— Ці давалі вы якія-небудзь канкрэтныя парады, рэкамендацыі кіраўніку парламента Рэспублікі Беларусь?**

— А ведаеце, без парад не абышлося! Я парэкамендаваў спадару Шушкевічу інтэнсіўней знаёміць сусветную грамадскасць з Беларуссю. Пра вас мы мала чуем і чытаем: больш пра Грузію, Карабах, Малдову... Па Еўропе павінна прайсці цэлая рэкламная кампанія пра Беларусь. Гэта, дарэчы, таксама рынкавы падыход.

У вас з'явілася вялікая магчымасць стварыць сапраўды новую незалежную дзяржаву, з новай Канстытуцыяй, новымі законамі, устанавіць новы дэмакратычны парадак. Гэта будзе нялёгка, на шляху будуць сустракацца цяжкасці, але храбрасці вам не пазычаць. А галоўнае — верце ў вялікую Будучыню Беларусі.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

---

# БЕЛАРУСІ ПАТРЭБЕН НЕ ШАКАЛАД, А ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ВАЛЮТА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Яшчэ адно пытанне. Многа гавораць аб уласнай валюце. Па-мойму, яна пакуль што не патрэбна. Для такой высновы шмат падстаў. Мы не павінны аказацца ў становішчы прыбалтаў, на іхніх памылках трэба вучыцца. Камусьці, на першы погляд, можа здацца, што, скажам, эстонская крона —стабільная валюта. Але гэта да пары да часу. Усе замежныя кіраўнікі фірм, з якімі я размаўляў, у адзін голас сцвярджаюць: як толькі Расія шчыльна закрые мяжу з прыбалтыйскімі краінамі, перапыніўшы звычайны кантрабандны вываз сваёй сыравіны, увёўшы сусветныя цэны на ўсе віды прадукцыі, эстонцы акажуцца ў вельмі незайздросным становішчы. Тыя ж амерыканцы гавораць, што толькі Расія — адна з нямногіх краін можа справіцца з інфляцыяй, зрабіўшы з цягам часу сваю грашовую адзінку стабільнай і цвёрдай, таму што ёй ёсць чым гэта рабіць.

Што датычыцца Беларусі... Ёй перш за ўсё трэба заняцца «інтэлектуальнай» валютай. Я маю на ўвазе прыцягненне спецыялістаў з краін так званага блізкага замежжа. Чым больш пяройме рэспубліка «разумных галоў» і ўладкуе іх, тым больш у яе будзе шанцаў для далейшага развіцця. Мы атрымаем магчымасць вельмі хутка вырвацца ў інтэлектуальным плане наперад. Дзе браць гэтых спецыялістаў? Запрашаць з усіх рэгіёнаў, дзе ідуць міжнацыянальныя канфлікты, грамадзянскія войны, многія выязджаюць з той жа Прыбалтыкі. Вядома, не ўсіх, але лепшых можна перахапіць, дапамагчы ім стаць на ногі, даць магчымасць працаваць — і аддача будзе вельмі хуткай. Тым больш, што ўмовы для адаптацыі тут добрыя. Дарэчы, гэтыя людзі значна хутчэй, чым нават мясцовыя, вывучаць і беларускую мову — будучы ўдзячнымі рэспубліцы і з-за неабходнасці хутчэйшага ўключэння ў нармальнае жыццё.

---

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# Старыя інструкцыі КДБ СССР у КДБ Беларусі не дзейнічаюць

Пасля публікацыі ў «Звяздзе» ад 6 кастрычніка артыкула М. Несцяровіча пад назвай «Нават расстраляныя «ворагі народа» заставаліся пад каўпаком КДБ», у якім гаворка ідзе аб тым, што «органы дзяржбяспекі фабрыкавалі дакументы аб прычынах смерці палітзняволеных», у некаторых чытачоў нават узнікла сумненне, а можа і зараз у дзяржбяспецы дзейнічае названая аўтарам «інструкцыя КДБ СССР»?

Хацелася б давесці да ведама грамадзян, што гэтая інструкцыя (як і многія іншыя) не толькі ўжо не існуе, не дзейнічае, але аб ёй даўно забыліся нават ветэраны КДБ.

Сённяшнія супрацоўнікі дзяржбяспекі, хоць і не вінаватыя ў злачынствах НКУС супраць народа, узялі на свае плечы долю адказнасці і зараз лічаць сваім грамадзянскім абавязкам зрабіць усё, што ад іх залежыць, па рэабілітацыі і аднаўленню добрых імён неабгрунтавана рэпрэсіраваных ахвяр.

Рэалізуючы пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1991 года «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20-80-х гадоў», Камітэтам дзяржбяспекі рэспублікі ў лютым 1992 года пачата і праводзіцца работа па перагляду архіўных крымінальных спраў з састаўленнем заключэння на кожнага рэпрэсіраванага несудовымі органамі, устанаўленнем фактаў ссылкі, высылкі, накіравання на спецпасяленне, высялення за межы рэспублікі ў адміністрацыйным парадку.

Выдзеленыя Саветам Міністраў рэспублікі 25 пасад заняты кваліфікаванымі супрацоўнікамі з ліку пенсіянераў органаў КДБ. Гэтая работа праводзіцца ў цесным узаемадзеянні з Пракуратурай Рэспублікі Беларусь, куды накіроўваюцца на зацвярджэнне ўсе матэрыялы на асоб, падлягаючых і не падлягаючых рэабілітацыі. З улікам важнасці і вастрыні пастаўленай задачы прыняты да ўвагі і вопыт работы мінулых гадоў.

Так, у 1955—1991 гг. перагледжаны 69.262 крымінальныя справы на 115.739 чалавек, з якіх рэабілітавана 100.522 чалавекі, а на пачатак работы па выкананню ўказанай пастановы павінна быць перагледжана 75.400 крымінальных спраў на 121.410 чалавек.

У выніку прынятых энергічных мер за мінулы перыяд 1992 года на 1 кастрычніка перагледжана 6.449 архіўных спраў, па якіх рэабілітавана 8.293 чалавекі, выпісана і перададзена ў Камітэт па архівах пры СМ РБ 14.368 картак статыстычнага ўліку на неабгрунтавана рэпрэсіраваных грамадзян.

Адным з важных участкаў у рабоце, якая датычыцца пытанняў рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, з'яўляецца разгляд паступаючых заяў грамадзян. У сувязі з праводзімымі ў рэспубліцы мерапрыемствамі па выкананню пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 чэрвеня 1991 г. колькасць зваротаў грамадзян у органы дзяржбяспекі значна павялічылася.

Аўтары лістоў выказваюць просьбы паведаміць аб лёсе пацярпеўшых, прычынах іх арышту і прад'яўленых абвінавачаннях, месцах пахавання, біяграфічныя звесткі блізкіх людзей, вяртанні асабістых дакументаў, узросце членаў сям'і, выдаць даведкі аб рэабілітацыі, месцах працы і пражывання да арышту, азнаёміцца з крымінальнымі справамі. Пры наяўнасці матэрыялаў практычна па ўсіх такіх зваротах прымаюцца станоўчыя рашэнні. У апошні час у сувязі з устанаўленнем і пашырэннем ільгот для рэпрэсіраваных і членаў іх сем'яў асабліва ўзрасла колькасць заяў (каля 80% ад усіх зваротаў па разглядаемым пытанні), якія датычацца маёмасных прэтэнзій, фактаў ссылкі, высылкі за межы рэспублікі, тэрмінаў знаходжання ў зняволенні, на спецпасяленні. У большасці выпадкаў афіцыяльныя дакументы аб канфіскацыі маёмасці адсутнічаюць, у такім разе факт канфіскацыі ўстанаўліваецца шляхам апытання сведак і збору іншых доказаў пры садзеянні архіўных устаноў, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Як паказала практыка разгляду такіх заяў, канфіскацыю маёмасці, як правіла, праводзілі мясцовыя органы ўлады. Усе сабраныя матэрыялы аб канфіскацыі, адабранні ці страце маёмасці, якая належала асобам, што былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны, накіроўваюцца на разгляд у адпаведныя камісіі Саветаў народных дэпутатаў.

Улічваючы вялікую грамадска-палітычную значнасць дзейнасці па рэабілітацыі ахвяр рэпрэсій, запаўненню «белых плям» у гісторыі рэспублікі, Камітэт дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь па запытах Акадэміі навук Беларусі, іншых дзяржаўных, творчых і грамадскіх арганізацый актыўна праводзіць работу па пошуку, вывучэнню і наступнаму азнаямленню прадстаўнікоў гэтых ведамстваў з матэрыяламі на неабгрунтавана рэпрэсіраваных відных дзяржаўных дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, работнікаў мастацтва рэспублікі. Так, у 1992 годзе навуковым супрацоўнікам, работнікам тэлебачання, радыё і прэсы, музеяў, пісьменнікам было прад'яўлена больш за 60 крымінальных спраў на асоб гэтай катэгорыі, выдадзена каля 400 копій архіўных дакументаў, зроблена 146 фотарэпрадукцый асуджаных.

Па матэрыялах, што знаходзяцца ў КДБ рэспублікі, у газетах і часопісах выдадзены шэраг навуковых і іншых дакументальных публікацый.

Работа па рэабілітацыі ахвяр масавых рэпрэсій пастаянна знаходзіцца пад кантролем кіраўніцтва Камітэта дзяржбяспекі рэспублікі. Гэтае пытанне разглядалася на калегіі. Многія кіруючыя работнікі ў сродках масавай інфармацыі аб'ектыўна асвятлялі падзеі мінулага, аналізавалі прычыны беззаконнасці.

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ Беларусі.**

